ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№2 (11) люты 2012 год
ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ
Кошт свабодны

# БУДЗЬМА БРАТАМІ!

**Каталіцкі Касцёл надзвычай багаты людзьмі і традыцыямі. Асаблівае багацце Касцёла – гэта манаскія супольнасці і тыя, хто, уступаючы ў іх, прысвячае сваё жыццё Богу і людзям. Адным са старажытных ордэнаў, браты якога плённа працуюць у Беларусі, з'яўляецца ордэн братоў меншых капуцынаў. Пра жыццё ў кляштары* і асаблівасці манаскага паклікання пойдзе гаворка ў гэтым інтэрв'ю. На пытанні "Каталіцкага Весніка" пагадзіўся адказаць брат Войтэк Врублеўскі з кляштара капуцынаў у Докшыцах.**

**– Брат Войтэк, раскажыце пра сябе. Адкуль Вы родам?**

– Сам я родам з Польшчы, з горада Апочна. Гэта ў Лодзьскім ваяводстве. У мяне ёсць дзве малодшыя сястры, якія ўжо замужнія і маюць дзяцей. Дзякую Богу за маіх бацькоў. Іх завуць Зоф'я і Эдвард.

**– А як Вы адчулі, што жыццё ў капуцынскім ордэне – гэта для Вас?**

– Ведаеце, у мяне заўсёды было вялікае жаданне малітвы. Але я не хацеў гэта рабіць у адзіноце. Таму ў юнацтве далучыўся да групы моладзі пры касцёле і прымаў удзел у малітоўных сустрэчах. Гэта быў рух "Святло-Жыццё". Затым праз нейкі час я перажыў моц і прыгажосць пілігрымкі. Гэта быў незабыўны вопыт сумеснай малітвы, але з адным мінусам: ён доўжыўся ўсяго толькі тыдзень. З капуцынамі я сутыкнуўся, калі пазнаёміўся з адным манахам, які прыязджаў у нашую парафію, каб адведаць родных.

*Працяг размовы чытайце на стар. 4*

## Падпішыся на Добрую Вестку!

**Дарагія сябры!** На "Каталіцкі Веснік" можна падпісацца. Кошт падпіскі на месяц – **1520 рублёў**.

Паштальён прынясе Вам газету на наступны дзень пасля яе выхаду з друкарні. Гэта надзвычай зручна асабліва для тых, хто жыве далёка ад касцёла і не заўсёды мае магчымасць наведваць святыню.

"Каталіцкі Веснік" – гэта газета Добрай Навіны. Аформіўшы падпіску для сябе або для сваіх блізкіх, Вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле.

**Стань апосталам! Падпішыся! Падары Добрую Вестку людзям!**

**Падпісны індэкс – 63783**.

### Удзела

пра беларускі Непакалянаў чытайце на стар. 6




### Намашчэнне хворых

Разважанні айца дамініканіна на стар. 3



### Што паглядзець?

Пра фільм "Джузэпэ Маскаці: Любоў, якая аздараўляе" чытайце на стар. 4



### Што такое кансэкрацыя?

Піша айцец Міхал Ермашкевіч OP. стар. 7



### Глыбокае

Пра тое, як працуе парафіяльны Карытас можна даведацца ў артыкуле на стар. 2



# ПРЫСВЯЦІЦЬ СЯБЕ БОГУ

**"Хто яна такая? Адзенне дзіўнае"... Часам чую ўслед за сабою такія пытанні. Некаторыя адважваюцца запытацца наўпрост, а яшчэ і скажуць, навошта людзей страшыць ды ў чорным хадзіць, жыццё, маўляў, і так не салодкае. Дык хто я такая? Хто ёсць тыя, што носяць манаскае адзенне, нават у летнюю спякоту?**

**с. Каміла Яновіч**

2 лютага адзначаем Свята Ахвяравання Пана. Такім чынам увесь народ Божы нанова перажывае тое, што адбылося ў Ерусалімскай святыні: Марыя з Юзафам ахвяравалі Дзіцятка Езуса Богу Айцу. Быў там, у святыні, Сімяон. І вось ён праз Духа Святога распазнае ў Дзіцяці Бога і Збаўцу. Менавіта 2 лютага адзначаецца Сусветны дзень Кансэкраванага жыцця – жыцця, прысвечанага Богу. Чаму людзі ў наш час не здолеюць распазнаць у Кансэкраваных асобах людзей, прысвечаных Богу? Чаму так здзіўляе і страшыць некаторых манаскае адзенне?

А вось вернікі з парафіі Параф'янава, падобна да Сімяона, распазналі ў людзях у манаскім адзенні тых, хто цалкам належыць Богу. Пазналі, ды яшчэ ахвотна сабраліся на супольную Урачыстую Эўхарыстыю з асобамі кансэкраванымі Докшыцкага дэканата. Услаўлялі і дзякавалі Госпаду за Яго любоў і прысутнасць у жыцці кожнага з нас.

Падчас казання айцец Марэк нагадаў нам словы Папы Рымскага, што Кансэкраванае жыццё знаходзіцца ў сэрцы Касцёла як штосьці вельмі каштоўнае і дарагое. Ён звярнуў увагу на тое, што пакліканні нараджаюцца ў нашых сем'ях. Запытаўся: "Бацькі! Ці гатовыя вы ахвяраваць сваё самае каштоўнае, сваіх дзяцей Богу?" Заклікаў, каб людзі адкрылі свае сэрцы для Духа Святога і голасу Божага.

І яшчэ... Вельмі красамоўна назваў айцец сённяшні дзень Святам Ахвярнасці. Варта запытацца ў сябе, ці здольны я быць ахвярным для Бога, для іншых, для нашай Бацькаўшчыны?

Няхай жа Дух Святы саграве сэрцы маладых людзей і іх бацькоў, каб яны маглі адказаць на Божы заклік і жыць у сэрцы Касцёла.



**На здымку:** айцец Марэк Пасют OFMCap цэлебруе Святую Імшу ў Параф'янаве

## Прыходзьце ў "Карытас"!

Праца валанцёраў трымаецца на хрысціянскай ідэі служэння. Хрысціяне заўсёды верылі і сведчылі, што ўсе людзі з'яўляюцца вольнымі, маюць роўныя правы і годнасць. Адной з самых істотных і абавязковых адзнак павінна быць любоў да Бога і любоў да людзей, асабліва да тых, якія жывуць побач. Імкненне служыць іншаму кліча чалавека да канкрэтных спраў, да канкрэтных дзеянняў. І валанцёры прыходзяць на дапамогу людзям, якім яна сапраўды патрэбная.

Пры "Карытасе" парафіі Святой Тройцы г. Глыбокае Віцебскай дыяцэзіі працуе каля 20 валанцёраў. Некаторыя з іх апякуюцца людзьмі сталага ўзросту, некаторыя – дзецьмі з абмежаванымі магчымасцямі альбо дзецьмі з сацыяльнага прытулку. У гэтай справе добры прыклад паказвае пробашч парафіі ксёндз Мечыслаў Янчышын, які амаль кожны дзень наведвае старэнькую бабулю і аказвае ёй не толькі духоўную дапамогу, але і вырашае праблемы штодзённага жыцця.

Патрэба ў дапамозе ўзнікла на пачатку гэтага года і ў адной шматдзетнай сям'і, якая пражывае ў вёсцы на Глыбоччыне. Паціснулі маразы, а запасу дроў не было. І тут на дапамогу прыйшоў парафіяльны "Карытас". Сям'я атрымала торфабрыкет. Спадзяёмся, што зараз у іхняй хаце цёпла і ўтульна.

На цяперашні час запланавана шмат працы і праектаў розных напрамкаў, каб яшчэ больш ахапіць сваёй падтрымкай і любоўю тых, хто знаходзіцца ў цяжкіх жыццёвых абставінах.

Валанцёры – гэта людзі, у якіх сэрца заўсёды адкрытае на людское гора. Напэўна, з Божай дапамогай яны ўмеюць непрыкметна арыентавацца ў штодзённых патрэбах парафіянаў. Вынікі іх працы яшчэ вельмі сціплыя, але яны ўжо сведчаць пра тое, што малады глыбоцкі парафіяльны "Карытас" жыве, дзейнічае і паступова набіраецца вопыту. Зразумела, для пачатку трэба стварыць трывалую кагорту аднадумцаў, якую пасля чакае праца, руплівая праца дзеля дабра блізкага. Менавіта таму валанцёры звяртаюцца з заклікам "Прыходзьце ў "Карытас!" да тых, хто неабыякавы да чужога гора, хто мае палымянае сэрца, хто не шкадуе свайго вольнага часу, каб дапамагчы блізкаму.

*Валанцёры глыбоцкай парафіяльнай арганізацыі "Карытас"*

## Настоящая любовь

Что для каждого из нас значит любовь? В повседневной жизни мы по-настоящему забываем, что такое любовь. Она не подразумевает только быть с человеком, держать его за руку, вместе гулять, обсуждать семейное положение в социальных сетях. Ведь любовь – это чувство, которое ты ощущаешь всю свою сознательную жизнь. Ведь сколько надо сил, терпения, чтобы любовь в тебе была чем-то прекрасным.

А где можно найти настоящую любовь? Этот вопрос следует трактовать по-разному. Самый верный признак любви я нашёл у апостола Павла: "радуйтесь с радующимися и плачьте с плачущими". Когда радость человека подлинно становится моей радостью, когда всё, что его радует, радует меня, а его боль становится моей болью, здесь есть любовь. На более низком уровне – это сопереживание. Но в настоящее время любовь искажает свою сущность. Все меньше чувств, а больше действий сексуального характера, приносящих с собой аборты, СПИД и т.д. Человек становится жертвой этой неправильной любви. Настоящая любовь исходит из одного источника. Этот источник вечной, никогда не исчезающей любви – Бог. Ведь Его любовь настолько велика, что Он послал своего Сына, дабы Христос искупил нас Своей кровью, терпением, смертью. Ведь в этом проявляется любовь совершенная к нам, людям. Божья любовь меняет человека и ставит его на путь истинный, путь к Христу, к Богу, который есть любовь. Верьте в Божью любовь, которая спасает нас. Не зря папа Бенедикт XVI назвал этот год годом веры.

*Дмитрий Лебзяк*





## Пакліканне

Там, ля Ярдана, шэпча голас:
Хадзем за Мною,
Я – твой Бог.
У Галілеі спее колас,
Жніво надходзіць...
Між дарог
Мае слядочкі пратапталі
Да сэрцаў чалавечых шлях –
Суцешвалі, аздараўлялі
У часе тым і ў гэтых днях.
Праз гарады і праз мястэчкі
Прыйшлі й сягоння.
Чуеш, Я
Шукаю згубленай авечкі
Пакуль не спыніцца зямля.
Не бойся!
Я заўжды з табою,
А між дарог тваёй зямлі
Мае слядочкі пад расою
Нябеснай славай праляглі.
Пакінулі адметную сцяжыну
Каля Нявы і ля Дняпра,
Паклікалі ў Святую Палесціну
Прайсці праз цемру да Святла
Адважных.
Чуеш, спее колас...
Не пашкадуй ні рук, ні ног.
Палёў радзімых чуеш голас?
Ідзі, бо клічу Я –
Твой Бог.

*Кс. Сяргей Сурыновіч*

## Курыя Віцебскай дыяцэзіі паведамляе

У 2012 годзе біскуп Уладзіслаў Блін працягне кананічную візітацыю парафій Віцебскай дыяцэзіі. Парадак візітацыі будзе наступны.

22 красавіка – Порплішча, асвячэнне капліцы ў Барсуках,
29 красавіка – Полацк,
6 мая – Друя,
20 мая – Дзісна,
3 чэрвеня – Опса,
10 чэрвеня – Германавічы,
17 чэрвеня – Пеліканы,
24 чэрвеня – Мосар,
1 ліпеня – Павяцце,
12 жніўня – Верхнядзвінск,
19 жніўня – Ікзань, святкаванне 100-годдзя касцёла,
26 жніўня – Барадзенічы,
2 верасня – Новалукомль,
16 верасня – Талочын,
30 верасня – Урбаны,
7 кастрычніка – Расоны,
14 кастрычніка – Дуброўна, асвячэнне касцёла,
21 кастрычніка – Гарадок,

**Варта ведаць.**

Сёлета ўрачыстасці ў Будславе пройдуць 6-7 ліпеня.

Урачыстасці ў Браславе будуць святкавацца 17-18 жніўня.

Рэкалекцыі для святароў пройдуць у Браславе 20-22 жніўня.

## Вялікі дзякуй!

**"Каталіцкі Веснік" выказвае сваю бязмерную ўдзячнасць усім, хто дасылае на газету ахвяраванні.**

Дарагія сябры, гэтыя сродкі мы выкарыстоўваем для выхада самой газеты, а таксама, каб падтрымаць конкурсы і віктарыны, якія мы праводзім. Дзякуй, што вы ў нас ёсць! Мы запланавалі яшчэ шмат розных праектаў! Няхай за ўсё дабро наш Збавіцель вам адудзячыць сваім благаслаўленнем!

Свае ахвяраванні нам даслалі:

**Анастасія Орсік**, г.п. Бярозаўка, Гродзенская вобл.

**Марына Спургяш**, г.п. Бярозаўка, Гродзенская вобл.

**Яніна Вяршэль**, в. Вігушкі, Гродзенская вобл.

**Марыя Качура**, г. Ліда

**Кс. Юзаф Станеўскі**, г. Гродна

**Марыя і Уладзімір Тупека**, в. Дзеркаўшчына, Віцебская вобл.

**Сцепаніда Лупач**, в. Заварата, Віцебская вобл.

За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца галоўны рэдактар "Каталіцкага Весніка" кс. Віктар Місевіч адпраўляе Святую Імшу.

Дарагія сябры, памажыце нам абвяшчаць Добрую Вестку! Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў альбо ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. Няхай Добры Бог будзе з вамі!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Намашчэнне хворых

**У нашым артыкуле гаворка пойдзе пра сакрамант намашчэння хворых. Але ён прызначаны для здаровых. Я напісаў гэты матэрыял, будучы здаровым, таму лічу, што не маю права павучаць тых, хто пакутуе. Перадусім артыкул скіраваны да асобаў, якія бачаць хваробу або надыход смерці на прыкладзе іншых, каб маглі падрыхтавацца да плённага прыняцця сакраманту хворых. Гэта гучыць дзіўна і незразумела, але патрэба прыняцця гэтага сакраманту з'яўляецца толькі пытаннем часу...**



а. Кшыштыф Коц'ян ОР

Вельмі добра памятаем Дзень Божага Нараджэння, калі мы складалі адно аднаму святочныя зычэнні. Сярод тых пажаданняў вельмі часта гучала традыцыйнае: "... і зычу табе здароўя, бо гэта самае важнае". Менавіта ў кантэксце сакраманту хворых варта задумацца: "калі" і "ці" здароўе з'яўляецца найважнейшым?

Напэўна, здароўе вельмі важнае для нас. Безумоўна, яно важнейшае, чым матэрыяльныя справы. Навошта мне грошы і ўдача, калі я не маю здароўя, каб цешыцца з іх? Навошта мне поспех на працы і кар'ерны рост, калі не буду мець сілаў, каб спаўняць новыя абавязкі? Але, з іншага боку, існуюць рэчы больш важныя за здароўе. Часам, калі бачым, як нехта ахвяруе сваё здароўе альбо нават жыццё дзеля чагосьці, мы разумеем: нават калі мы самі не адважыліся на такі ўчынак, яго ўчынак быў гераічны.

Як прыклад на думку мне прыходзіць адзін выпадак, што адбыўся некалькі гадоў таму. Знакаміты прафесійны баксёр вырашыў ахвяраваць нырку для сваёй хворай дачкі. Вядома, мы маем дзве ныркі, і пасля аперацыі гэты баксёр мог вярнуцца ў спорт. Але зразумела і тое, што ён нанёс непапраўны ўрон для свайго здароўя. Нягледзячы на гэта, яго рашэнне зразумелае і лічыцца прыгожым і гераічным. Мы адчуваем, што яго ўчынак быў не стратай, а набыткам. Страціў частку свайго здароўя, але ўратаваў жыццё дарагой асобе.

Як бачым, ёсць каштоўнасці больш важныя за здароўе ці нават жыццё. Такой каштоўнасцю з'яўляецца любоў. Любоў у адносінах да Бога ці блізкага. Як хрысціяне мы спадзяёмся таксама на ўзнагароду ў небе – чакаем ўваскрашэння. Таму любоў Бога і блізкага, дзеля якой можам страціць здароўе ці жыццё, не супярэчыць любові да самога сябе: хто траціць сваё жыццё ў гэтым свеце, атрымлівае жыццё вечнае.

У такім святле трэба паглядзець на сакрамант намашчэння хворых. Гэта сустрэча з Богам – Асобай, якая жадае нам найлепшага. ЁН хоча нас збавіць. ЁН глядзіць на нашае жыццё ў шырокай перспектыве, хоча, каб мы дасягнулі поўнага збаўлення. Таму незаўсёды атрымліваем аздараўленне ад пэўнай хваробы. Таму хвароба можа закончыцца смерцю. Гэта крыху нагадвае настаўніка, у якога вучні просяць перанесці іспыт. Зразумела, што экзамен – рэч не вельмі прыемная. Зразумела, што перад самім экзаменам нам заўсёды здаецца, што калі б мы мелі крыху больш часу, то, напэўна, лепей падрыхтаваліся б. Аднак надыходзіць такі момант, калі экзамен трэба здаць. І Бог, як настаўнік, кажа: зараз..., больш нельга адкладваць..., ужо прыйшоў час.



**На здымку:** святар удзяляе сакрамант намашчэння хворых

Аднак нават тады, калі хвароба набліжае смерць, Бог не адмаўляе нам у сваёй Ласцы. Нават тады Бог дзейнічае ў сакраманце намашчэння хворых. ЁН з'яўляецца ТЫМ, хто падтрымлівае чалавека, калі ён перакрочвае найважнейшую мяжу – мяжу ў новае жыццё.

Упадобным кантэксце бачна цяжкасць сакраманту намашчэння хворых. Гэта не цудоўныя лекі, але спатканне з Асобай. Асоба, якая мяне любіць радыкальна і жадае мне дабра. Аднак калі я сустракаюся са свабоднай асобай, я павінен згадзіцца, што не маю поўнага кантролю над тым, што можа здарыцца. Веру, што сустракаюся з самім Дабром, але не ведаю, што канкрэтна са мной будзе. Давер – асноўная цяжкасць у прыняцці гэтага сакраманту. Таму замест таго, каб аддаца ў рукі Бога, з'яўляецца спакуса ілюзорнага пачуцця кантролю.

Магчыма, пад уплывам багатага досведу я не здольны даверыцца камунебудзь, таксама і Богу. Магчыма, розныя здарэнні ў маім жыцці пакінулі пасля сябе перакананне ў тым, што "ніхто пра мне не паклапоціцца, калі я сам пра сябе не паклапачуся". Магчыма, маю схільнасць кантраляваць усё, што адбываецца вакол мяне. Праблема ў тым, што пачуццё поўнага кантролю з'яўляецца фальшам.

Калі хачу жыць у праўдзе, то павінен прызнаць, што ёсць шмат розных рэчаў, якія большыя за мяне. Не маю ўплыву на ўсё, што мяне датычыць. Здольнасць адрозніваць тое, што ад мяне залежыць і што не залежыць, – пачатак сапраўднага кіравання сваім жыццём. Згода з тым, што не ўсё залежыць ад мяне, не з'яўляецца адмаўленнем ад адказнасці. Наадварот, толькі ў праўдзе пра сябе, у праўдзе, што хоць не ўсемагутны, але, аднак, свабодны, магу прымаць сапраўдныя рашэнні і кіраваць сваім жыццём.

Адной з рэчаў, пра якую павінен памятаць, ёсць факт, што я не да канца гаспадар свайго здароўя, што не з'яўляюся гаспадаром сваёй смерці. Калі нехта хоча заўсёды і любым коштам захоўваць сваё здароўе і жыццё, то ў далейшай перспектыве ён асуджаны на паразу. Выкарыстоўваючы розныя сродкі, можна толькі аддаліць час страты. Дасягненні сучаснай медыцыны ці ўсё іншае, што магу сабе ўявіць, толькі аддаляюць той момант, але не дапамогуць пазбегнуць яго.

Дбанне пра сваё здароўе з'яўляецца справай важнай і пабожнай. Бо здароўе з'яўляецца дарам Бога. Але ў гэтым клопаце пра здароўе таксама трэба ведаць меру, нельга забываць, што гэта сродак, а не мэта. Было б глупствам, уцякаючы ад непазбежнага, страціць тое, што з'яўляецца найважнейшым. Нашмат лепей прасіць Бога ў сакраманце Намашчэння Хворых, каб Ласка Уваскрослага Езуса аб'явілася ў маім жыцці. Ці праз аздараўленне, ці праз умацаванне ў дарозе да неба.

# ПАД АПЕКАЙ МАРЫІ

**11 лютага – сусветны дзень хворых. Таму як і штогод з амбоны вернікі пачулі запрашэнне святара на святую імшу за ўдзельнікаў малітоўнай супольнасці ружанца "Яднання ў цярпенні з Хрыстом", а пасля Святой Імшы жадаючых прыняць сакрамэнт хворых.**

Тамара Пашкевіч

За 12 гадоў, што існуе група Ружанца, яна аб'яднала сотні парафіян. А пачыналася, як і многія іншыя справы, па ініцыятыве пробашча кс. Лешка Вітвіцкага. 11 лютага 2000 года ў Дзень хворых, ён прапанаваў прысутным у касцёле аб'ядначца ў групу Ружанца "Яднанне ў цярпенні з Хрыстом" і разам маліцца за духоўнае і фізічнае здароўе родных, знаёмых, усіх людзей у свеце. Такія супольныя малітвы павінны былі дапамагчы вернікам зразумець, што жыццё чалавека немагчыма без цярпення, што яно частка нашага жыцця, ад яго нельга ўцячы і за яго нельга наракаць на Бога. Духоўнае ці фізічнае цярпенне – гэта наш крыж – нібы далучае нас да бязмернага цярпення Хрыста, да той вялікай Яго ахвяры пра збаўленне людзей і магчымасць вечнага жыцця.

Колькасць людзей, якія жадалі рабіць гэта (маліцца), расла з месяца ў месяц. Да супольнасці далучаліся не толькі людзі, якія самі, ці іх родныя мелі праблемы са здароўем, а і тыя, хто цярпеў ад бязладдзя ў сем'ях, ад празмернага ўжывання алкаголю, меў іншыя трывогі, у пераадоленні якіх спадзяваўся толькі на супольную малітву і дапамогу Хрыста. Прычым гэта былі не толькі прыхаджане сталага ўзросту, а і маладыя католікі. Павялічвалася не толькі колькасць членаў суполкі, а і геаграфія іх пражывання. Сёння Ружанец "Яднанне ў цярпенні з Хрыстом" налічвае 340 чалавек. Гэта не толькі браслаўчане, але і жыхары з Віцебска, Ушач, Далёкіх, Друйска, Слабодкі, Ахрэмаўцаў, Опсы, Пагошчы… ( 195 чалавек ужо адыйшлі ў вечнасць і таму агульная колькасць 535) У кожную першую нядзелю месяца, а таксама на Дзень хворых у інтэнцыі ўсіх гэтых людзей адпраўляецца Святая Імша.

У чытачоў можа ўзнікнуць правамернае пытанне: як арганізуецца маленне такой вялікай супольнасці. Вядома, гэта вялікая арганізацыйная работа. Для кожнага члена Ружанца на пачатак новага месяца рыхтуецца картка з таямніцай, дзе апісваюцца і інтэнцыі наступнага месяца, разважанні адпаведнай таямніцы. Іх раздаюць у касцёле, а іншагароднім загадзя высылаюць па пошце, захварэўшым перадаюць праз знаёмых. Так узнікае яшчэ адна магчымасць да блізкіх зносін, згуртавання людзей, якіх аб'ядноўвае адна мэта: праз ахвяру свайго цярпення і малітву падтрымаць адзін аднаго.

Для ўсіх католікаў свету, а для жыхароў нашага краю, якія яна трымае пад сваёй апекай, асабліва Марыя – прыклад пакоры і цярплівасці. Таму да Яе, адмаўляючы таямнічку ружанца, мы звяртаемся кожны дзень і, вымаўляючы "Вітай, Марыя", даручаем Яе апецы свой лёс і лёс усіх цярпячых людзей.

Далучыцца да малітоўнай супольнасці можа кожны жадаючы.

*Вядучая ружанца арганістка браслаўскай парафіі Іна Сапун*

**Тэлефон для кантакту:** 7157342 (МТС).
e-maеl: agniinna@mail.ru

**P. S.** За калядным сталом, які штогод арганізуе касцёл для сваіх супольнасцей, у чарговы раз збіраліся ніндаўна і члены Ружанца "Яднанне ў цярпенні з Хрыстом." Хоць прыйсці змаглі далёка не ўсе, атрымалася цудоўная сустрэча. І гэта не дзіўна.

*Добрая Вестка ў тваім доме!* Каталіцкі ВЕСНІК №2(11) люты 2012 г.

# БУДЗЬМА БРАТАМІ!

*Гутарыў кс. Віктар Місевіч*

*Працяг. Пачатак на стар. 1*

**– І тады нарадзілася пакліканне?**

– Не зусім. Я скончыў школу і пачаў працаваць на чыгунцы. Аднак знаёмства з братамі не закідваў. Ездзіў на рэкалекцыі** да іх у кляштар. Там праводзіліся штомесячныя сустрэчы з юнакамі. І толькі праз нейкі час я рашыўся ўступіць у ордэн.

**– Божы Провід пасля падрыхтоўкі ў навіцыяце*** скіраваў Вас у Докшыцы. Скажыце, якія Вашыя асноўныя абавязкі ў гэтым кляштары?**

– Асноўны мой абавязак – гэта быць братам для ўсіх. І ў кляштары, і за яго сценамі. Таксама я цяпер з'яўляюся адказным за выхаванне кандыдатаў да манаскага жыцця. І ўжо восьмы год выконваю абавязкі кухара.

**– А што лягчэй: выхоўваць моладзь ці карміць яе?**

– Справа ў тым, што, будучы манахам, я ўспрымаю кожны дзень як дарогу да святасці. І таму любы абавязак успрымаю як сродак стаць больш святым. Таму паводле цяжкасці ці лёгкасці ўсе мае абавязкі аднолькавыя.

**– Цікава, што робяць іншыя браты, калі брат Войтэк ідзе ў водпуск? Галадаюць?**

– Чаму? Ёсць вада і хлеб (смяецца). Калі мяне няма, то браты самі някепска спраўляюцца або ім дапамагаюць сёстры. (У парафіі ў Докшыцах працуюць сёстры Адараторкі Крыві Хрыста. Заўвага рэд.) Але цяпер падчас падрыхтоўкі маладых манахаў праводзяцца спецыяльныя курсы па кулінарыі, каб браты ўмелі гатаваць. У рэшце рэшт кляштар – гэта наш дом. І браты павінны ўмець справіцца з рознымі заданнямі.

**– Колькі ў дзень трэба часу, каб накарміць усіх братоў?**

– Мне неабходна гадзіны тры або чатыры, каб накарміць дзесяць чалавек. Хоць, калі толькі пачынаў гатаваць, трэба было і восем гадзін патраціць на гэта. Ва ўсім важная практыка. Памятаю, як зайздросціў кухарам з тэлеперадач, што так спраўна рэжуць нажом. Думаў, што я так ніколі не змагу. Але сёння бачу, што такое майстэрства залежыць ад таго, колькі гадоў Вы стаіце пры кухонным стале.

**– А як наконт фірмовага рэцэпту? Нашым чытачам, думаю, цікава было б чамусьці навучыцца ад капуцына-кухара.**

– Я ўсяго толькі самавук у кулінарыі. Усе мае веды ўзятыя з кнігаў. Але падзялюся з чытачамі "Весніка" адным асаблівым рэцэптам. Ведаеце, я заўсёды марыў навучыцца пячы хлеб. І сёння падкажу аматарам кулінарыі, як яго спячы.

**– Шчыра кажучы, я думаю, што ў сучасных кухнях на пліце спячы хлеб немагчыма.**

– Не. Гэта даволі рэальна. Я раскажу, як пячы хлеб з аўсяных камякоў. Трэба ўзяць паўкілаграма камякоў, падрыхтаваць сто грам дражджэй і адзін кілаграм пшанічнай мукі. Перамяшаць паўлітра вады і паўлітра малака. Атрымаецца вадкасць аб'ёмам 1 літр, якую можна крыху падагрэць. Затым трэба растварыць аўсяныя камякі і дрожджы. Туды дадаём па сталовай лыжцы цукру і солі. Усё гэта пакідаем на 1 гадзіну ў цёплым месцы, каб заквасілася. Праз гадзіну дадаём пшанічную муку, добра перамешваем. Калі ёсць патрэба, можна дадаць крыху цёплай вады і перамяшаць. Затым зноў адстаўляем цеста на гадзіну-паўтары ў цёплае месца. Калі яно вырасце, кладзём яго на стальніцу і месім рукамі. Цеста не павінна прыліпаць да рук. Затым трэба намазаць маслам тры доўгія жалезныя формачкі. Выкладваем цеста так, каб яно займала больш за палову формы. Зноў ставім на гадзіну, каб цеста вырасла. Награваем духоўку да тэмпературы 180 градусаў. Цеста ў форме павінна вырасці так, каб крыху ўзнімалася над ёй. Павінна нават крыху выйсці з яе. Затым ставім форму з цестам у прагрэтую духоўку і запякаем 50-60 хвілін. Атрымаецца сітні хлеб.

**– Як часта Вы яго выпякаеце?**

– Ведаеце, у нашым кляштары на кухні таксама адбываецца выхаванне моладзі.

**– Гэта як?**

– Кожную суботу прыходзяць дзеці 10-гадовага ўзросту і мы разам выпякаем хлеб. Дзеці самі ўсё робяць: і цеста месяць, і выпякаюць. Гэты хлеб яны заносяць дамоў у свае сем'і. Некаторыя нават дзеля такой навукі выпякання хлеба адмовіліся ад іншых гурткоў і пазашкольных заняткаў. А наогул падчас канікулаў парафіяльная моладзь прыходзіць і дапамагае гатаваць для дзяцей. Калі мы праводзім адпачынковы летнік, то старэйшыя гатуюць для малодшых. Такім чынам яны вучацца любіць адзін аднаго,



шанаваць і ўзаемна дапамагаць.

**– Сапраўды, дзе найлепш можна навучыцца братняй салідарнасці, калі не ў супольнасці? А што хацелі б Вы сказаць маладым людзям, якія задумваюцца пра манаскае жыццё?**

– Цяжка акрэсліць, мае хтосьці пакліканне ці не. Я ніводнаму маладому чалавеку не сказаў: "Слухай, у цябе няма паклікання." Або: "У цябе ёсць пакліканне." Дакладна ўсведамляю, што не я – гаспадар паклікання, а Дух Святы. Найлепшы адказ пра пакліканне ведае сам кандыдат. А справа супольнасці – дапамагчы маладому чалавеку распазнаць Божы голас. Таму хачу пажадаць моладзі і наогул усім людзям добрай волі, каб умелі быць братамі адзін для аднаго.

**– Дзякуй вялікі за размову.**

---

* кляштар азначае тое ж, што і манастыр.

** рэкалецыі – гэта час духоўных практыкаванняў.

*** навіцыят – падрыхтоўчы тэрмін для юнакоў у ордэне.

# Любоў, якая аздараўляе

■ **кс. Віктар Місевіч**

**Ёсць фільмы, пасля прагляду каторых хочацца распавесці пра ўбачанае іншым. Такой, на маю думку, з'яўляецца карціна рэжысёра Джакома Кампіёці (Giacomo Campiotti) "Джузэпэ Маскаці: Любоў, якая аздараўляе" (Giuseppe Moscati: L'amore che guarisce). Гэта біяграфічная стужка. У ёй распавядаецца пра жыццё і дзейнасць неапальскага доктара Джузэпэ Маскаці, які сёння ў Касцёле абвешчаны святым.**

Фільм атрымаўся выключна добры. Ігра акцёраў не дазваляе адарвацца ад экрана. Ды і што тут казаць? Само жыццё доктара Джузэпэ Маскаці было настолькі багатым на падзеі і неверагодныя ўчынкі галоўнага героя, што, падазраю, сцэнарысту даволі лёгка працавалася над тэкстам. Таму замест падрабязнага апісання падзей з фільма прапаную чытачам біяграфічныя звесткі з рэальнага жыцця Джузэпэ.

Ён нарадзіўся 25 ліпеня 1880 года. Быў сёмым дзіцём у вялікай сям'і юрыста. Калі хлопчыку споўніліся чатыры гады, сям'я пераехала ў Неапаль, дзе Джузэпэ і пражыў усё сваё далейшае жыццё. Пасля навучання ў пачатковай школе ён паступіў на медыцынскі факультэт Неапальскага ўніверсітэта, які і скончыў са ступенню доктара медыцыны.

Доктар Маскаці, працуючы ў шпіталі, вельмі рупліва ставіўся да сваёй працы. Будучы католікам, ён вёў пабожны лад жыцця, пастаянна клапаціўся пра сакрамант споведзі і Святую Камунію. Яго рэлігійны светапогляд адбіўся на падыходзе да працы. Доктар любіў паўтараць, што "місія ўсіх манахінь, малодшага медперсанала і ўрачоў – садзейнічаць Божай міласэрнасці." Сучаснікі казалі, што ва ўсіх хворых доктар пытаўся, ці не маюць на сумленні цяжкога граху, ці паяднаныя з Богам. Інакш кажучы, доктар Маскаці спачатку лячыў душу, а потым цела хворых.

Аднак неабходна заўважыць, што Джузэпэ не быў цудатворцам. Аздараўленні, якія сталі магчымыя ў яго практыцы, былі вынікам не толькі пільнай увагі да душы пацыента, але і грунтоўнай прафесійнай падрыхтоўкі. Прафесар Маскаці заўсёды вучыўся. Ён быў сапраўды вядомым і шанаваным адмыслоўцам медыцыны.




У 1911 годзе доктар быў прыняты ў члены Італьянскай Каралеўскай медыка-хірургічнай акадэміі. У 1919 г. прызначаны галоўным урачом аддзялення для невылечна хворых, а ў 1922-ім атрымаў права свабоднага выкладання студэнтам у лячэбнай клініцы. Як навуковец ён шмат часу праводзіў у лабараторыях і на кафедры паталагаанатоміі. Лічыцца, што доктар Маскаці ўнёс вялікі ўклад у вывучэнне дыябету. Яго працы ў многім паспрыялі адкрыццю інсуліну.

Да святога доктара цягнуліся ўсе: і багатыя, і бедныя. Ён часта з'яўляўся апошняй надзеяй, таму што быў вядомы як дакладны дыягност. Бедных прымаў не толькі ў клініцы, але і дома, часта ўкладваючы ў рэцэпты грошы на лекі. Ён быў самаахвярны ў працы. Не раз, рызыкуючы сваім жыццём, ішоў у небяспечныя закуткі, каб дапамагчы хворым. Сучаснікі запомнілі яго подзвіг падчас эвакуацыі хворых з бальніцы, калі выбухнуў Везувій. Тады доктар Маскаці ледзь не загінуў.

Але смерць знайшла яго ўсё роўна ў маладым узросце. Таленавітаму доктару было толькі 47 гадоў.

Адна мая знаёмая, прагледзеўшы стужку, сказала: "Гэты фільм немагчыма глядзець без слёз". Так, у фільме шмат шчымлівых момантаў. Глядач стане сведкам самаахвярнай любові і чорнай зайздрасці, будзе перажываць за здраду і радавацца перамозе над злом. Так, як і ў жыцці, там чаргуюцца адно з адным: праўда і хлусня, адвага і страх, высакароднасць і нізасць.

Думаю, фільм не пакіне абыякавым нікога. Раю яго паглядзець нават тым, хто з'яўляецца аматарам толькі баевікоў і прыгодніцкіх стужак. Таму што карціна хоць і мастацкая, але расказвае пра жыццё непрыдуманае. Жыццё рэальнае і святое.

---

Беатыфікацыя Джузэпэ Маскаці адбылася 16 лістапада 1975 года, калі Папам быў Павел VI. А святым яго абвясціў Папа Ян Павел ІІ 25 кастрычніка 1987 года. Каталіцкі Касцёл успамінае святога доктара 16 лістапада. Ён лічыцца апекуном урачоў.

# КАШТОЎНАСЦЬ ЧАЛАВЕКА

**Што цэняць хлопцы і дзяўчаты адзін у адным? На гэтае пытанне маладыя людзі адказалі "Каталіцкаму Весніку".**

*Гутарыла Ірына Грэйць*

**Павел Трон:**
– Цаню ў дзяўчыне тое, што яна гатуе ежу, мые адзенне, прыбірае дома, а я ў гэты час ляжу на канапе і гляджу футбол!!! (жартую).
Насамрэч цаную ў дзяўчатах, што яны ўмеюць слухаць, што яны могуць быць добрым суразмоўцам. Калі яны падрымліваюць у складаных сітуацыях, паважаюць меркаванні іншых. Цаню своеасаблівую мудрасць, уменне правільна вырашыць складаныя задачы. Калі ў дзяўчыны ёсць гармонія духоўнай і цялеснай прыгажосці!



**Вікторыя Янковіч:**
– Мужчынская палова часам ставіцца да дзяўчат, як да цацак. Таму, у першую чаргу, цаню ў хлопцах тое, што яны адносяцца з павагай да нас. Цаню тых, хто зважае на душэўнасць, а не на цялеснасць. Калі хлопец не ўжывае нецэнзурную лексіку ў прысутнасці дзяўчыны, калі абараняе дзяўчыну ў розных абставінах.
Яшчэ некалькі крытэрыяў, паводле якіх я цаню юнакоў, – гэта шчырасць, вернасць, адкрытасць, давер.



**Вераніка Вараб'ёва:**
– Цаню ў мужчынскай палове, канешне ж, акуратнасць, уменне ветліва весці сябе з дзяўчатамі, тактоўнасць. Дзяўчаты – пяшчотныя кветачкі, таму радуе, што хлопцы беражліва ставяцца да іх. Добра адчуваць, што за мужчынам ты як за каменнай сцяной. Цаню тое, што мужчыны маюць уяўленне пра каханне, пра клапатлівасць, пра адказнасць.



**Аляксей Крыкун:**
– У дзяўчатах ценіць можна ўсё!!!! Яны прыгожыя, разумныя, цудоўныя! Без жаночай паловы наша жыццё не мае сэнсу. Дзяўчаты робяць жыццё цікавейшым. Заўсёды цаню вернасць і ўзаемнасць у пачуццях. Таксама тое, што дзяўчаты прымаюць цябе такім, якім ты ёсць. Уменне вытрымліваць цяжкасці складаных шэрых будняў, а таксама ўменне шчыра радавацца кожнаму святу. Цаню жаданне жыць, кахаць, быць каханай. Патрэбна аддаць дзяўчатам павагу за тое, што яны дораць новае жыццё, а таксама заўсёды клапоцяцца пра блізкіх.



**Алег Цітовіч:**
– У дзяўчатах цаню, у першую чаргу, іх выхаванасць. Таксама своеасаблівую вытанчанасць у паводзінах, жаноцкасць. Цаню правільнасць у паводзінах, словах, учынках. Добра, калі дзяўчына задумваецца пра сям'ю, пра дзяцей! Без гэтага няма будучыні.
Цаню, калі дзяўчына без дрэнных звычак, калі яна думае пра сваё здароўе, а таксама пра здароўе будучых дзяцей.



**Анастасія Сіняўская:**
– У маладых хлопцах я цаню багаты ўнутраны свет. А канкрэтна – гэта светапогляд. Каб усё было не толькі на словах, але і ва ўчынках. Цаню іх стаўленне да маці, часцей за ўсё яно пераносіцца на будучую жонку і на адносіны з сям'ёй. Важна, як малады чалавек ставіцца да іншых – з павагай, з разуменнем. Яго ўчынкі немалаважныя: уменне мяняцца, быць сапраўдным і адданым сябрам. Цаню мужнасць, наяўнасць свайго пункту гледжання і адстойванне яго. Калі ў маладога чалавека добрае сэрца, шчырасць, вернасць, прысутнічае ўменне слухаць. І вельмі важна, калі хлопец сапраўдны хрысціянін.



# Канцэрт калядак у Глыбокім

■ **Алена Пірэйка**, *тэкст;* **Уладзіслаў Барыла**, *фота*

**Хто быў у нядзелю або ў любое свята ў касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім, той меў магчымасць пачуць спеў парафіяльнага хора "Авэ Марыя".**

Вось і 2 лютага, у свята Ахвяравання Пана, на заканчэнне каляднага перыяду хор зноў заспяваў калядкі:

Нарадзіўся, нам з'явіўся
Сярод ночы ў стайні Бог…

Позірк прыцягвалі яселькі, у якіх ляжыць Дзіця з Бэтлеема. Дзіўная атмасфера: гараць агенькі, і гэтаму Малому, што нарадзілася, так, як і кожны з нас, кланяюцца каралі.

Нягледзячы на вялікі мароз, парафіяне з задавальненнем спявалі разам :

Не спі, абудзіся:
Хрыстус нарадзіўся,
З неба радасць прамяніцца,
Будзем весяліцца.

Ужо 12 гадоў існуе парафіяльны хор "Авэ Марыя". Паўстаў ён дзякуючы кс. Пятру Врубелю, які ў той час працаваў у парафіі. Ад'язджаючы, ён даў наказ: "Хор павінен быць! Спяваць і славіць Пана Бога!"

Усе 12 гадоў хор адчуваў дапамогу і падтрымку з боку касцёла. Стала добрай традыцыяй даваць канцэрты на свята св.Цэцыліі, апякункі хораў і касцельнай музыкі, спяваць калядкі, удзельнічаць у парафіяльных імпрэзах.

Вось і гэтыя калядныя сустрэчы адбыліся дзякуючы ксяндзу пробашчу Мечыславу Янчышыну, які шмат клапоціцца і дапамагае хору. Сёлета да свята далучыліся айцец Станіслаў Памыкала і ксёндз Юры Вільк з Віцебска.

У поўнай цішыні, таямніча і зачаравана гучаў спеў:

Час шчаслівы для свету прыйшоў
З нараджэннем Тваім...

Кожны з прысутных панёс з касцёла часцінку дабрыні і надзеі, што святое Дзіця пачула яго просьбы і малітвы.



**На здымку:** ксёндз Мечыслаў Янчышын з парафіяльным хорам «Авэ Марыя»

# У БЕЛАРУСКІМ НЕПАКАЛЯНАВЕ



**На здымку:** айцец Вальдэмар Куява OFMConv праводзіць экскурсіі ў сутарэннях касцёла

**На развілцы дарог перад уездам у вёску Удзела, дзе знаходзіцца Беларускі Непакалянаў, стаіць фігура Маці Божай. Побач – стэла з надпісам "ОАО За Родину", на версе якой знаходзіцца пяціканцовая зорка. Пастаўленая яшчэ ў савецкі час стэла і ў наш час фігура Маці Божай пэўным чынам сімвалізуюць рэчаіснасць, у якой жывуць жыхары в. Удзела.**

**Сам Беларускі Непакалянаў – Кляштар Беззаганнай у в. Удзела, быў створаны паводле ідэі святога Максіміліяна Кольбэ для распаўсюджвання пашаны да Найсвяцейшай Панны Марыі.**

**Кацярына Лаўрыненка**

…Хлопчык горача маліўся перад абразом Панны Марыі: "Мая мама засмучаная маімі паводзінамі. Маці Божая, скажы, што з мяне будзе? Раптам ён убачыў Найсвяцейшую Панну Марыю, якая трымала ў сваіх руках два вянцы: адзін – асляпляльна-белы і другі – чырвоны, як кроў. "Гэта чыстасць і пакутніцтва, потым неба. Які вянец ты абіраеш?" – спытала Яна. Хлопчык абраў абодва... Гэтае з'яўленне перадвызначыла ўсё далейшае жыццё Раймунда Кольбэ, айца-францішканіна Максіміліяна Марыю, Вар'ята Беззаганнай...

Ваўзросце 13 гадоў Раймунд Кольбэ разам са сваім братам уступіў у малую семінарыю айцоў-францішканаў у Львове, а праз некалькі гадоў, 4 верасня 1910 г., распачаў навіцыят і атрымаў законнае імя Максіміліян. У 1912 г. ён выехаў на вучобу ў Рым, дзе праз два гады склаў вечныя шлюбы і дадаткова ўзяў сабе імя Марыя. З дзяцінства ўлюбёны ў Найсвяцейшую Панну Марыю – гэтую гарачую любоў ён вынес з бацькоўскага дома – і прагнучы аддана служыць Ёй, у 1917 г. разам з некалькімі сабратамі ў Рыме Максіміліян Марыя заснаваў Рыцарства Беззаганнай – таварыства, мэтай якога было здабыванне душаў для Хрыстуса праз Беззаганную. У Рыме ж 28 красавіка 1918 г. ён прыняў святарскае пасвячэнне. У 1919 г. св. Максіміліян вярнуўся ў Польшчу, дзе з запалам распаўсюджваў справу Рыцарства Беззаганнай і пачаў выдаваць месячнік "Рыцар Беззаганнай". Першы нумар часопіса выйшаў у студзені 1922 года ў Кракаве. Восенню таго ж года св. Максіміліян пераехаў у Гродна, дзе і працягваў выдавецкую дзейнасць.

У 1927 г. непадалёку ад Варшавы айцец Максіміліян заснаваў новы кляштар-выдавецтва, які назваў Непакаланаў. "Непакалянаў – гэта месца, абранае праз Беззаганную і прызначанае для павелічэння яе пашаны. Усё, што ёсць і будзе ў Непакалянаве, – гэта Яе ўласнасць. Мы ўсе абраныя праз Беззаганную, а праз гэтае абранне сталі яе ўласнасцю", – звярнуўся св. Максіміліян да сваіх сабратоў перад ад'ездам у Непакалянаў. У 1930 г. св.. Максіміліян выехаў у Японію на місіі, дзе і заснаваў другі, японскі, Непакалянаў – у Нагасакі. Адтуль вярнуўся ў польскі Непакалянаў у 1936 г., стаўшы на чале законнай супольнасці.

У 1939 г. пачалася Другая сусветная вайна. Неўзабаве св. Максіміліян з братамі былі вывезены ў лагер, але праз некалькі месяцаў знаходжання там іх вызвалілі. У Непакалянаў яны вярнуліся 8 снежня 1939 г. 17 лютага 1941 г. св. Максіміліян быў арыштаваны другі раз і вывезены ў турму на Павяку ў Варшаве, а 28 мая – адпраўлены ў канцэнтрацыйны лагер Аўшвіц, атрымаўшы там замест імя нумар 16670. У жахлівым Аўшвіцы, дзе не павінна было быць месца для любові, міласэрнасці і чалавечай годнасці, св. Максіміліян цалкам прадэманстраваў гэтыя якасці. Ён адрозніваўся поўным годнасці захаваннем, спакоем і павагай. Не баючыся кары смерці, арганізоўваў малітвы і спавядаў. У чэрвені ён прамовіў канферэнцыю для сватароў "Адносіны Найсвяцейшай Беззаганнай Маці да Асобаў Найсвяцейшай Тройцы". Нягледзячы на тое, што сам быў пастаянна галодны, дзяліўся з іншымі ўласнай ежай. І на кожным кроку падкрэсліваў неабходнасць бязмежнага даверу да Беззаганнай.

Напрыканцы ліпеня з аднаго барака збег чалавек. Было абвешчана, што калі ўцякач не знойдзецца, то дзесяць чалавек памруць у бункеры галоднай смерцю. Адным з гэтых дзясяці, прызначаных на смерць, быў Францішак Гаяўнічак. "Я больш ніколі не ўбачу сваю жонку і дзяцей", – заплакаў ён. І тады св. Максіміліян сказаў: "Я хачу пайсці замест яго". "Ты хто?" – спытаў у яго здзіўлены камендант лагера і пачуў у адказ: "Я – каталіцкі святар".

З гэтага бункера былі чутны малітвы і рэлігійныя спевы. А сам св. Максіміліян рыхтаваў да жыцця вечнага тых, хто разам з ім быў асуджаны на смерць: спавядаў, падтрымліваў іх дух... 14 жніўня 1941 г., у Вігілію Ўнебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, зямное жыццё "Вар'ята Беззаганнай", якое ён аддаў за іншага, скончылася. "У гэтай жахлівай, па чалавечых мерках, смерці заключалася ўся веліч чалавечага ўчынку і чалавечага выбару. Ён сам пайшоў на смерць дзеля любові", – сказаў у гаміліі падчас кананізацыі св. Максіміліяна польскі Папа Ян Павел II у 1982 г., абвясціўшы яго святым пакутнікам.

Пасля смерці св. Максіміліяна Кляштары Беззаганнай былі заснаваныя больш чым у 30 краінах свету, і адзін з іх – у Беларусі, у в. Удзела.

Айцы-францішкане прыехалі ў Удзела ў 2000 г. па запрашэнні біскупа Уладзіслава Бліна (хоць, можа, лепей сказаць, што і вярнуліся: айцы-францішкане знаходзіліся тут з 1642 да 1851 гг., калі царскія ўлады ліквідавалі кляштар). Будучы падлеткам, Уладзіслаў Блін служыў у якасці міністранта ў касцёле айцоў францішканаў. Тады ж ён уступіў у Рыцарства Беззаганнай. Стаўшы ардынарыем Віцебскай дыяцэзіі як Рыцар Беззаганнай, біскуп Блін выказаў жаданне, каб у Беларусі паўстаў свой Непакалянаў. І 24 чэрвеня 2002 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё Кляштара Беззаганнай у в. Удзела. Некалькі гадоў таму сюды, у Удзела, айцы-францішкане прывезлі рэліквіі св. Максіміліяна, якія захоўваюцца ў капліцы кляштара, а падчас святаў і ўрачыстасцяў пераносяцца ў касцёл.

На сённяшні дзень у беларускім Непакалянаве жывуць па прыкладзе святога Францішка і працягваюць місію, распачатую святым Максіміліянам Кольбэ па распаўсюджванні Рыцарства Беззаганнай, трое айцоў-францішканаў: а. Мірaслаў Капчэўскі OFMConv – гвардыян кляштара і пробашч парафіі, а. Ян Херні OFMConv і а. Вальдэмар Куява OFMConv. І, безумоўна, таксама яны прыбліжаюць як да сваіх парафіянаў, так і да шматлікіх пілігрымаў, што наведваюць Удзела, постаць святога Максіміліяна Кольбэ. Дзеля гэтага ў парафіі знаходзіцца музей, прысвечаны асобе святога. Ён зусім сціплы, тут няма, напрыклад, асабістых рэчаў святога, што беражліва захоўваюцца ў польскім Непакалянаве, але ёсць іншае – жаданне данесці як мага больш тымі сціплымі сродкамі, якія ёсць. Гэта стэнды з фотаздымкамі і ксеракопіямі, кожны з якіх прысвечаны асобнаму этапу жыцця святога. Згаданая выстава была падрыхтаваная да 100-годдзя з дня нараджэння святога ў 1994 г. айцом Юзафам Макарчыкам OFMConv для дэманстрацыі ў Гродне. Пазней гэтыя стэнды былі перавезены ў Удзела. Ахвотныя могуць праглядзець і фільм пра жыццё святога. У беларускім Непакалянаве можна запісацца ў Рыцарства Беззаганнай.

І дзяцей, і дарослых прываблівае батлейка, што знаходзіцца ў парафіі. Некалькі гадоў таму яе зрабіў брат-францішканін Фелікс Грабовец. Прычым ідэя батлейкі рэлізаваная такім чынам, каб яна функцыянавала не толькі падчас святаў Божага Нараджэння, але і на працягу ўсяго года. Пераказваць само прадстаўленне, безумоўна, не мае сэнсу – яго трэба бачыць саму. "Такім чынам, простым францішканскім спосабам мы спрабуем данесці да кожнага чалавека праўду пра Езуса і Марыю", – кажуць удзельскія францішкане.

У скляпеннях касцёла ёсць выстава, прысвечаная місіянерскай працы францішканаў у некалькіх краінах: Эквадоры, Індыі, Кеніі, Буркіна-Фасо і Танзаніі. Там жа знаходзіцца і труна з парэшткамі пахаваных у касцёле францішканаў.

Таму варта, канечне ж, прыехаць у беларускі Непакалянаў, каб убачыць усё гэта на свае вочы, паслухаць аповяды айцоў пра францішканаў у в. Удзела і непарыўна звязаную з імі гісторыю касцёла і парафіі, пра святога Максіміліяна; убачыць крыж, што высока ўздымаецца ў неба. І, безумоўна ж, адчуць непаўторную атмасферу беларускага Непакалянава. Бо галоўнае тут – гэта малітва. Штодзённа айцы-францішкане даносяць да Маці Божай усе нашыя просьбы, молячы аб паратунку і заступніцтве. І Маці Божая, канечне ж, заступаецца.



**На здымку:** айцец Ян Херні OFMConv даследуе францішканскія старадрукі

# Што такое кансэкрацыя?

**У Касцёле ёсць шмат розных пакліканняў. Аднак кожнае з іх, калі чалавек імкнецца добра яго рэалізаваць, вядзе да з'яднання з Богам, да святасці, бо ўсе хрысціяне паводле моцы сакраманту хросту з'яўляюцца асобамі, якія належаць Богу.**

**Аднак сярод людзей ёсць тыя, хто пакліканы да асаблівага прысвячэння свайго жыцця Богу, гэта значыць, асобы кансакраваныя. Хто яны такія?**



а. Міхал Ермашкевіч OP

Лацінскае слова consecrare азначае "аб'яўляць асвечаным, недатыкальным, святым" (у адрозненне ад prafanare – пазбаўляць святасці, ганьбіць). Такім чынам, кансэкраванымі называем месцы, рэчы і асобаў, што выключаюцца са звычайнага свецкага жыцця і прысвячаюцца толькі мэтам рэлігійным. Напрыклад, кансэкрацыя храма азначае, што ён прызначаецца толькі для Божага культу і рабіць у ім, скажам, танцавальную ці спартовую залу, а тым больш рэстаран – зганьбіць святое месца. Таксама і кансэкраваны келіх, у якім віно ператвараецца ў Кроў Пана, нельга ўжываць па-за св. Імшой як посуд прызначаны для іншых напояў. У старым абрадзе, напрыклад, да яго нават ніхто, акрамя святара, не мае права дакранацца голымі рукамі. На асобным месцы стаіць кансэкрацыя хлеба і віна падчас св. Імшы, калі яны становяцца Целам і Крывёю Хрыста.

Што датычыць кансэкраваных асобаў, то гэта тыя мужчыны і жанчыны, якія спаўняюць адпаведныя патрабаванні, прысвячаюць сваё жыццё на выключнае служэнне Богу праз спецыяльныя абяцанні, што называюцца "шлюбамі" – у шырокім значэнні гэтага слова. Параўнаем: у штодзённай практыцы "шлюбам" называюць узаемныя абяцанні мужа і жонкі, якія прадугледжваюць, што ў іх жыцці ўжо не будзе іншых адпаведна жанчын і мужчын.

Кансэкраваныя асобы не могуць мець сваёй сям'і не таму, што лічаць яе чымсьці горшым, але таму, што месца мужа і жонкі ў іх жыцці займае Бог. Найлепш пра гэта кажа Св. Павел у 1 Кар. 7, 32-35: "Хачу, каб вы былі без клопату. Чалавек нежанаты рупіцца пра Госпада, як падабацца Госпаду. А хто жанаты, рупіцца пра [справы] свету, як падабацца жонцы, і таму разгублены. І жанчына незамужняя і дзяўчына рупіцца пра Госпада, каб быць святой і целам і духам; а якая замужам – рупіцца пра свецкія [справы], як падабацца мужу. Кажу гэта на вашу карысць, не каб паставіць вам пастку, але каб вы годна і бесперапынна былі пры Госпадзе".

Калі, напрыклад, кансэкраваная асоба парушае шостую запаведзь, то і яна, і саўдзельнік маюць падвойны грэх – чужалоства і святатацтва, крадзеж таго, што аддадзена на выключную ўласнасць Богу ўвогуле. Усе добрыя ўчынкі кансэкраванай асобы маюць большую заслугу перад Богам, чым тыя ж учынкі, здзейсненыя звычайным чалавекам. Але і адказнасць за зло, зробленае асобай, прысвечанай Богу, таксама большая. Праўда, калі такая асоба імкнецца любіць і карыстацца з усіх сродкаў збаўлення, якія ёсць у Бога, нягледзячы на слабасць, Бог, безумоўна, асцярожа яе ад падзення і дапаможа быць сапраўдным знакам Яго прысутнасці ў свеце, знакам Божага валадарства, дзе ўсе не будуць выходзіць замуж і жаніцца, але стануць падобныя да анёлаў Божых.



**На здымку: законная сястра падчас вечных шлюбаў**

## З Днём Анёла!

Ксёндз Раман Мурзіч распачаў душпастырскую працу ў парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве ў верасні 2011 года. Выхаванец вядомага ксяндза Ёзаса Булькі, ён шчодра дзеліцца цяплом і святлом Божай любові з парафіянамі.

28 лютага наш шаноўны ксёндз Раман адзначыць Дзень Анёла. Шчыра дзякуем яму за тое, што, не шкадуючы сілы, выконвае волю Хрыста. Прыгажосцю душы, сваёй святасцю, справамі, разуменнем і цярпеннем вядзе нас, нашых дзяцей, унукаў дарогай Божай Праўды. У штодзённай малітве яднаемся з ім і просім, каб Божая ласка напаўняла нашы сэрцы яшчэ мацнейшай верай, сапраўднай міласэрнасцю, вялікай любоўю і павагай да ўсіх, хто вакол нас. Молімся, каб Божая Міласэрнасць надзяляла ўсімі патрэбнымі ласкамі нашага святара і родных, дарагіх яму людзей. Асаблівая наша падзяка маме кс. Рамана.

*Леакадзія Малей і іншыя вернікі парафіі НПМ у Параф'янаве*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**19 лютага 2012 г. Мк 2,1-12**

Знайшлося чацвёра добрых людзей, якія дапамаглі спаралізаванаму. Не спалохаліся тлуму і супраціву. З цяжкасцю прынеслі хворага да Езуса. Езус сказаў,што хвораму будуць дараваныя яго грахі. Бо грэх– большае няшчасце, чым параліч. Бог мае ўладу дапамагчы чалавеку вырвацца з бязраднасці і паралічу грэху. Ён можа зрабіць так, што чалавек, які Яго слухае, будзе вольны ад грэху, як гэты хворы ад паралічу. І пойдзе жыць у любові… Вельмі важнай у справе перамогі над грэхам з'яўляецца дапамога сяброў. Якія не брыдзяцца знаходзіцца побач з грэшнікам. Якія гатовы прайсці праз многае, каб данесці яго да Езуса…

*– Ці дапамагаю хворым на грэх знайсці Езуса?*

*– Ці дазваляю, каб сябры клапаціліся пра маё збаўленне?*

*– Ці маю адвагу і ўпартасць у справе выратавання бедных грэшнікаў?*

*– Ці ўмею пераадолець сваю непрыязнасць да грэшніка?*

*– Ці ведаю, што грэх – гэта сапраўдны параліч, які перашкаджае жыць і нават забівае?*

*– Ці спачуваю сабе і іншым грэшнікам у іх няшчасці?*

*– Ці слухаю Езуса, калі гаворыць: Устань?!*

*– Ці дакладна выконваю Яго даручэнні?*

*– Ці прыслухоўваюся да іх у спавядніцы, на малітве, у час разважання Божага Слова?*

*– А магчыма, блюзнеру, уяўляючы сябе Богам і думаючы, што змагу дапамагчы сабе сам?*

**26 лютага 2012 г. Мк 1,12-15**

Езус змагаецца са злом. Гэта духоўнае змаганне. Гэта час, у які шатан спрабуе спакусіць Езуса. Змаганне цяжкое, як з дзікімі звярамі. Адбываецца ў бязлюднай мясціне. У прысутнасці Бога і анёлаў. Далейшая дзейнасць Езуса – гэта абвяшчэнне Добрай Навіны. Абвяшчае радасную інфармацыю: Божая прысутнасць наблізілася. Прыйшоў Той час. Трэба адвярнуцца ад зла. Трэба паверыць у Добрую Навіну пра Бога, які прабывае ў нашых сэрцах.

*– Ці змагаюся свядома са злом у сваім сэрцы?*

*– А можа, шукаю зло ў свеце, забываючыся на шатана, які кусае мяне?*

*– Ці клапачуся пра сваю ўнутраную прыстойнасць?*

*– Ці малюся?*

*– Ці спавядаюся?*

*– Ці чытаю Божае Слова?*

*– Ці прымаю Езуса ў Святой Камуніі?*

*– Ці прашу Божай дапамогі ў момант спакусы?*

*– Ці заўважаю свае спакусы і ці размаўляю пра іх з Езусам?*

*– Ці прашу парады, малітвы і дапамогі анёлаў, святых і божых людзей?*

*– Ці хачу адвярнуцца ад зла, якое квітнее ўва мне?*

*– Ці веру, што аддаючы сваё сэрца Богу, знаходжу крыніцу шчасця?*

Гэта духоўны план на Вялікі пост.

**4 сакавіка 2012 г. Мк 9,2-10**

Езус аб'явіўся сваім вучням у Боскай славе. Адкрыў перад імі нябесную рэчаіснасць. Гэты вопыт быў для іх чымсьці асаблівым. Бог загадаў ім быць паслухмянымі Езусу – Свайму Сыну. Езус аб'явіў ім таксама таямніцу пра будучае змёртвыхпаўстанне. Яны не зразумелі… Бог кліча да веры і паслухмянасці. Дапамагае паверыць праз знакі, якія паказвае сваім вучням і праз Слова, якім іх навучае. Трэба, каб яны памяталі пра тое, што бачылі, і зразумелі тое, што ім было сказана. У гэтым ім, і нам таксама, дапамагае Святы Дух.

*– Ці паважаю сведчанне апосталаў пра змёртвыхпаўстанне Езуса?*

*– Ці разумею, што Касцёл перадае сведчанне апосталаў?*

*– Ці заўважаю Божыя справы ў сваім жыцці?*

*– Ці чытаю, слухаю і разважаю пра Божыя справы паміж людзьмі?*

*– Ці дзякую Богу і ці праслаўляю Яго за атрыманыя знакі Ягонай ласкі?*

*– Ці памятаю пра іх?*

*– Ці сведчу пра тое, што Бог зрабіў у маім жыцці?*

*– Ці шукаю адказаў на незразумелыя мне таямніцы веры?*

*– Ці шукаю іх у Касцёле?*

*– А можа, шукаю адказаў у сектах або ў д'ябла?*

Час Вялікага посту – час аднаўлення сувязі з Богам. Час аднаўлення свядомасці Яго боскасці і Яго прысутнасці ў маім жыцці.

*– Што раблю, каб гэта было так?*

**11 сакавіка 2012 г. Ян 2,13-25**

Езус ведае натуру чалавека. Ён заўважае стаптаную святасць святыні. Ён хутка і рашуча вяртае святыні святасць. Ён сваёй смерцю і змёртвыхпаўстаннем аднавіў веру. Ён прынёс свайму народу Божую прысутнасць і хоча, каб яе шанавалі. Каб не забывалі пра Бога, Які ёсць сэнсам і сутнасцю хрысціянскага жыцця.

*– Ці шаную святасць?*

*– Ці не тапчу Божых спраў у сваім жыцці?*

*– Ці з павагай стаўлюся да Бога і да малітвы? Да Імшы? Да споведзі?*

*– Ці не спрабую выкарыстаць Бога для сваіх спраў, для таго, каб служыў мне і апраўдваў мае нядобрыя намеры?*

*– Ці шаную нядзелю-святы дзень?*

*– Ці шаную сужэнства, якім мяне злучыў з іншым чалавекам Пан Бог?*

*– Ці дбаю пра ўласную годнасць Божага дзіцяці?*

*– Ці спрабую так, як Езус, цвёрда адкінуць тое, што топча святасць майго жыцця?*

Вялікі пост – добры час, каб зрабіць перабудову ў сваім сэрцы і сваім жыцці.

*– Што зрабіць, каб Божы трон быў галоўнай мэбляй майго сэрца?*

*– Што зрабіць, каб на гэтым троне сядзеў Ён, а не іншыя рэчы, справы, асобы?*

Рубрыку вядзе **кс. Павел Кнурэк**

# Людзі малітвы



**На здымку: сёстры-эўхарысткі з Друі**

**Кацярына Лаўрыненка**

2 лютага, у Свята Ахвяравання Пана, калі Каталіцкі Касцёл, пачынаючы з 1997 г., адзначае таксама Дзень Кансэкраванага Жыцця, айцы марыяне і сёстры-эўхарысткі сабраліся на ўрачыстую святую Імшу ў Друйскім касцёле, каб супольна падзякаваць Пану Богу за дар кансэкраванага жыцця.

Гэты Дзень у Друйскай парафіі заўсёды святкуецца асаблівым чынам, бо ўсе тыя, хто тут нясе службу Богу і Касцёлу, з'яўляюцца кансэкраванымі асобамі. Гэта святары з Кангрэгацыі Ксяндзоў Марыянаў Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі – ксёндз Пётр Бярнацкі, пробашч парафіі, і ксёндз Антоні Лось, вікарый, а таксама сёстры з Кангрэгацыі Сясцёр Служабніц Езуса ў Эўхарысты – с. Наталля Арлянковіч, с. Эдуарда Мароз, с. Фэлікса Журня і с. Ганна Мізавец. Айцы марыяне і сёстры-эўхарысткі служаць ў Друйскай парафіі з 1923 г. Менавіта тады ў Друі быў заснаваны кляштар айцоў марыянаў і ўзнікла Кангрэгацыя Сясцёр Служабніц Езуса ў Эўхарысты. Таму тут, у Друі, гэтыя дзве кангрэгацыі звязаны паміж сабой асаблівым чынам.

У сваёй гаміліі падчас Імшы айцец Пётр Бярнацкі MIC засяродзіўся між іншым на значэнні малітвы кансэкраваных асоб, а таксама малітвы за іх. "Гэта дзень малітваў за кансэкраваных асоб, якія адыгрываюць значную ролю ў Касцёле. Калісьці Езус Хрыстус паклікаў кожнага з нас па імені і мы адказалі Богу "так", пайшлі за Езусам, каб ахвяраваць сваім жыццём на карысць Богу і людзям". Далей ён працягваў: "Можна ўсё зрабіць дзякуючы Божай ласцы і моцы, дзякуючы малітвам кансэкраваных асоб. Часта свецкія кажуць, што кансэкраваныя асобы маюць больш часу на малітву. Насамрэч ў іх не заўсёды больш часу на малітву, чым у свецкіх, але ўвесь свой час яны імкнуцца запоўніць малітвай, спатканнем з Панам Богам". Закончыў сваю гамілію айцец Пётр заклікам:"Сёння мы просім вас аб малітве, каб мы сваім жыццём яшчэ больш праслаўлялі Пана Бога, сваім прыкладам вялі да Хрыста і неслі яго вам".

На ўрачыстай Імшы адбылося традыцыйнае асвячэнне свечак. І агеньчыкі запаленых свечак у руках сясцёр-эўхарыстак сімвалізавалі тое святло, якое нясуць кансэкраваныя асобы гэтаму свету.

# На забаву з "Веснікам"




**Дарагія сябры!**

У Беларусі ўсё больш пашыраецца традыцыя віншаваць адно аднаго з днём св. Валянціна. Ён адзначаецца 14 лютага. Закаханыя ці проста блізкія людзі шлюць наўзамен "валянцінкі" – прыгожыя сэрцайкі.

"Каталіцкі Веснік" таксама хоча павіншаваць сваіх любімых чытачоў з Днём Святога Валянціна. Віншуючы вас, мы прапануем прыняць удзел у агульнай забаве. Што трэба зрабіць?

Неабходна назбіраць 3 "валянцінкі" з нашай газеты і даслаць нам у рэдакцыю. Кожны, хто дашле гэтыя "валянцінкі", атрымае прыз. Але гэта яшчэ не ўсё.

Ёсць магчымасць выйграць суперпрыз! Для гэтага трэба даслаць нам 5 "валянцінак". Таксама каб атрымаць суперпрыз, можна даслаць 3 "валянцінкі" і да іх далучыць навіну з вашай парафіі. Што гэта павінна быць за навіна? Вы можаце арганізаваць сумесную малітву ці распавесці нам пра ўрокі рэлігіі, або наведаць старэйшых парафіянаў і занесці ім "Каталіцкі Веснік". Спытайце вашых святароў ці манахінь. Яны вам абавязкова падкажуць!

Прыняць удзел у забаве могуць чытачы любога ўзросту. У якасці суперпрыза пераможцы атрымаюць дыск з фільмам "Джузэпэ Маскаці: Любоў, якая аздараўляе".

Такім чынам, выразаем "валянцінкі" з газеты і віншуем адно аднаго са святам!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

### Катэхетычны каледж імя Зыгмунта Лазінскага ў Баранавічах

## Адкрыты навукова-практычны семінар «Евангелізацыя і новыя сродкі камунікацыі»

**25–26 лютага 2012 г.**

**У праграме:**

- знаёмства з практычнымі магчымасцямі евангелізацыі праз сучасныя сродкі камунікацыі,
- практычныя трэнінгі па сучасных метадах евангелізацыі,
- сустрэча з найлепшымі спецыялістамі па медыя-евангелізацыі.

АПЛАТА ЗА ЎДЗЕЛ У СЕМІНАРЫ: ДАБРАВОЛЬНАЕ АХВЯРАВАННЕ.

**ВЯДУЧЫЯ СЕМІНАРА:**

**Павел Левушкан** - кіруючы партнёр Цэнтра эфектыўных камунікацый, медыя-эксперт у галіне інтэрнэт-СМІ, практыкуючы кансультант і коўч. Сябар францішканскага Ордэну свецкіх. П. Левушкан з'яўляецца ўладальнікам некалькіх сайтаў. Кансультуе самыя разнастайныя грамадскія арганізацыі і бізнес-прадпрыемствы адносна магчымасцей эфектыўнага выкарыстання Інтэрнэту ў бізнесе і сацыяльных праектах. Праводзіць шматлікія курсы, семінары, майстар-класы ў Расіі, Латвіі, Украіне і іншых краінах. Дэлегат каталіцкіх рускамоўных блогераў на спецыяльных паседжаннях, скліканых Папам Бэнэдыктам XVI у Ватыкане.

**Юрый Гарулёў** – беларускі дакументаліст, аператар і рэжысёр. Ад 1975 г. супрацоўнік нацыянальнай кінастудыі"Беларусьфільм". Заснавальнік і кіраўнік кінастудыі "Стоп-кадр", якая вялікую ўвагу ўдзяляе жыццю Касцёла на Беларусі. Сп. Юрый з'яўляецца старшынёй Міжнароднага каталіцкага фестывалю хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм "Magnificat". Вядомы як аўтар шматлікіх фільмаў і відэаальманахаў на хрысціянскую тэматыку. Лаўрэат прэміі "За духоўнае адраджэнне".

**"ТРК Ангел ТВ"** – рэдакцыйна-прадзюсарская ўстанова. Яна аб'ядноўвае высокакваліфікаваных спецыялістаў розных веравызнанняў, якія выпускаюць разнастайныя духоўна-асветніцкія медыяпрадукты. Дзейнасць "Ангел ТВ" скіраваная на павышэнне маральнага, культурнага і духоўнага ўзроўню грамадства, асабліва дзяцей і моладзі. Супрацоўнікі гэтай установы займаюцца арганізацыяй і правядзеннем шматлікіх медыя-мерапрыемстваў і дабрачынных акцый для самых розных сацыяльных груп. Папулярызуюць хрысціянскія каштоўнасці з дапамогай найноўшых медыя-тэхналогій. Кіраўнікі ўстановы і госці семінара – Карына і Аляксандр Калінкіны.



**КАНТАКТНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ:**

**Тэлефоны:** +375 (0163) 46 77 93;
+375 (0163) 46 56 06
**Факс:** +375 (0163) 46 94 74
**E-mail:** callegge@gmail.com

**Адрас:** 225411, г. Баранавічы, вул. Т. Шаўчэнкі, 6.

**Арганізатары просяць усіх удзельнікаў семінара зарэгістравацца на сайце: college.catholic.by**

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:**
рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дзяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога, Таццяна Смоткіна

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 1092

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 08.02.2012 г. у 10.28

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ